

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады г. Менск, (Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 1 (102) | 16 лютага 1931 г. | № 1 (102)

## ЗЬМЕСТ

Абежнік НК Юстыцыі і НК Фінансаў БССР.

1. Пра парадак спагнаньня адзінай дзяржаўнай пашліны па заявах і скаргах, якія н... ...в пракурорам.

Інструкцыя НК Юстыцыі БССР.

2. Пра ...кываньне Кодэксу пра льготы для вайскоўцаў і вайскова-абавязаных Рабо... ...кай Чырвонай Арміі і іх сем'яў у галіне судовай дапамогі.

Тлумачэньне НК Фінансаў БССР.

3. Пра аплату адзінай дзяржаўнай пошлінай адказаў на заявы ў службовыя ўстанов...

Пастановы НК Працы БССР.

4. Пра аплату выкладчыкаў прафэсійных школ усіх тыпаў.

5. Пра абвяшчэньне пастановы НК Працы СССР за 19/I-1931 г. № 31 пра ўпарадк... ваньне водпускаў.

## ПАПРАЎКІ.

1) У пастанове НК Працы БССР за 15/X-1930 г. № 52 „Пра ўніфікацыю аплаты працы за нарыхтоўку і разьдзелку дровалесаматарыялаў" (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 22, стар. 12), у першым радку табліцы паказана цана за дрань з разрахунку 3 арш. „21 р. 40 кап.", а трэба — „40 кап.".

2) У пастанове НК Працы БССР за 27/X-1930 г. № 53 „Пра ўніфікацыю аплаты ...лянскай цягавай сілы" (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 23, стар. 5), ў другім радку зьверху (у загалоўку табліцы) надрукавана „цана за паўмэтр у кап.", а трэба: „цана за раўмэтр у кап."

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### 1. Пра парадак спагнаньня адзінай дзяржаўнай пошліны па заявах і скаргах, якія падаюцца пракурорам.

*Асобам Пракурорскага нагляду.*

З прычыны таго, што з 1 кастрычніка спынена спагнаньне гэрбавага збору, які цяпер замяняецца адзінай дзяржаўнай пошлінай, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Фінансаў лічаць неабходным замест абежніка № 38 за 25 лістапада 1929 г. (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 14, паст. 8), даць наступныя паказаньні па пытаньнях, зьвязаных з аплатай адзінай дзяржаўнай пошлінай заяў і скарг, якія падаюцца ў пракуратуру.

#### I. Агульныя заўвагі.

1. Адзіная дзяржаўная пошліна спаганяецца ў выпадках і па правілах, прадугледжаных Палажэньнем пра адзіную дзяржаўную пошліну (З. З. СССР 1930 г. № 46, арт. 480).

На падставе гэтага палажэньня і для яго разьвіцьця былі выдадзены:

а) Інструкцыя НКФ Саюзу ССР № 652 за 10/IX-1930 г. пра ўжываньне палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну і

б) Пастанова НКФ БССР № 21 за 17/X-1930 г. аб вынятках па адзінай дзяржаўнай пошліне.

2. Паводле артыкулаў 2-3 Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну платнікі пошліны падзяляюцца на тры катэгорыі: а) 1-я катэгорыя: дзяржаўныя ўстановы, грамадзкія арганізацыі і прадпрыемствы аграмаджанага сэктару; б) 2-я катэгорыя: рабочыя, служачыя і прыроўненыя да іх асобы (беспрацоўныя, вучні і дзяржаўныя пэнсіянэры); сяляне, за выключэньнем абкладаемых адзіным сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку; саматужнікі і іншыя арганізацыі і асобы, апроч аднесеных да 1 і 3 катэгорый, і в) 3-я катэгорыя асобы, абкладаемыя падаходным падаткам па расьпісаньню № 3 або адзіным сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку (арт. 2 Палажэньня).

З платнікаў першай катэгорыі (дзяржаўных установ, грамадзкіх арганізацый і прадпрыемстваў аграмаджанага сэктару) пошліна спаганяецца толькі з іскавых заяў па справах у судовых установах і арбітражных камісіях, значыцца органы пракуратуры ня могуць спаганяць адзінай дзяржаўнай пошліны з тых заяў, скаргаў і г. д., якія падаюцца платнікамі першай катэгорыі.

З ліку платнікаў неаграмаджанага сэктару зусім ня плацяць адзінай пошліны наступныя асобы:

а) асобы, якія атрымліваюць дапамогу у парадку сацыяльнага страхаваньня альбо прызнаны маючымі права на гэтую дапамогу;

б) вучні навучальных установ, якія атрымліваюць дзяржаўную стыпэндыю, і

в) вайскоўцы кадравага радавога і начальніцкага складу (апроч асоб, якія зволены ў доўгатэрміновы водпуск) і іх сем'і.

#### II. Па судовых справах.

3. Усе скаргі і заявы па крымінальных справах вызваляюцца ад адзінай дзяржаўнай пошліны на падставе ўвагі да арт. 14 Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну; на падставе гэтага правіла адзінай

дзяржаўнай пошлінай не аплачваюцца і заявы альбо скаргі аб дзеяньнях прыватных асоб, па якіх павінна быць распачата крымінальная справа паводле п. 1 арт. 91 Крымінальна-Працэсуальнага Кодэксу 1927 г.

4. Па грамадзянскіх справах з падаваемых у пракуратуру скаргаў адзіная дзяржаўная пошліна, апроч выпадкаў, паказаных у арт. 2, зусім не бярэцца, калі скарга падаецца па іску цаною да 25 руб., а таксама па справах працоўных і аб ўстанаўленьні бацькоўства.

### III. Па агульнаму нагляду.

5. Усе скаргі і заявы платнікаў другой і трэцяй катэгорыі, што падлягаюць разгляду Пракуратурай па агульнаму нагляду, як агульнае правіла, павінны аплачвацца адзінай дзяржаўнай пошлінай, апроч выпадкаў, паказаных ва ўвазе да арт. 14 Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну і ў арт. 4 пастановы НКФ БССР № 21 за 17 кастрычніка 1930 г.

На падставе гэтых двох пастаноў адзінай дзяржаўнай пошлінай, апроч выпадкаў, паказаных у арт. 2 гэтага абежніку,—не аплачваюцца:

а) усякія заявы і скаргі ў пракуратуру агульнага нагляду па справах культурна-асьветных, вайсковых, па справах пра выбары і пра палітычныя правы грамадзян;

б) заявы, якія падаюцца ў дзяржаўных і грамадзкіх інтарэсах (п. „в“ арт. 4 пастановы аб вынятках);

в) заявы аб злоўжываньнях і незаконных дзеяньнях службовых асоб (п. „г“ арт. 4 пастановы аб вынятках);

г) скаргі і заявы, якія пасылаюцца асобам пракурорскага нагляду Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам, Саветам Народных Камісараў, Эканамічнай Нарадай і Народным Камісарыятам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі на заключэньне (п. „г“ пастановы аб вынятках і ўвагі да арт. 14 Палажэньня). Калі-ж скаргі ня прыняты паказанымі ўстановамі да свайго разгляду і пасылаюцца ў пракуратуру для разгляду ў парадку нагляду, яны аплачваюцца адзінай пошлінай на агульных падставах;

д) заявы аб звароце няправільна ўнесеных падаткаў і збораў і аб заліку іх у іншыя плацяжы (п. „і“ арт. 4 пастановы аб вынятках);

е) заявы і скаргі па адзіным сельска-гаспадарчым падатку, за выключэньнем тых, што падаюцца асобамі, абкладзенымі ў індывідуальным парадку (п. „к“ арт. 4 пастановы пра выняткі).

6. Тэлеграфныя заявы і скаргі аплачваюцца адзінай пошлінай на агульных падставах, пры гэтым аб аплаце павінна быць зроблена адзнака службовай асобай тэлеграфа. Калі-ж такой адзнакі няма, адзіную пошліну за тэлеграфную заяву трэба патрабаваць пры дасылцы скаргніку адказу.

7. Калі па аднэй справе падаецца некалькі заяў альбо скарг, кожная заява і скарга павінна аплачвацца адзінай дзяржаўнай пошлінай, і толькі ў тым выпадку, калі заява зьмяшчае выключна просьбу аб прысьпяшэньні разгляду раней пададзенай заявы ці скаргі і ніякіх новых хадайніцтваў не зьмяшчае, яна не падлягае аплаце.

8. За дакумэнты, якія далучаюцца да скаргаў, адзіная дзяржаўная пошліна не бярэцца.

9. Калі падлягаючая аплаце адзінай дзяржаўнай пошлінай скарга альбо заява атрымана без аплаты пошлінай, а па сутнасьці справы яна падлягае тэрміноваму разгляду альбо калі вырашэньне будзе затрымлівацца выключна неаплатай адзінай дзяржаўнай пошліны, гэтую пошліну трэба спагнаць пры адказе альбо пры ўручэньні адказу праз

міліцыю, даручыўшы ёй спагнаньне пошліны і здачу яе ў касавую ўстанову (Дзяржбанк, сельскагаспадарчае крэдытнае таварыства, а ў сельскіх мясцовасьцях—у ашчадную касу).

10. Калі скарга падлягае перасылцы вучастковаму або гарадзкому пракурору альбо судовай ці іншай установе, то такая перасылка з прычыны неаплаты скаргі пошлінай не затрымліваецца, а толькі, пры накіраваньні скаргі, у адносіне на імя органу, якому скарга накіроўваецца, паказваецца аб неабходнасьці спагнаць пошліну.

11. На пастановах пракуратуры і адказах у іншай форме трэба адзначаць, што адзіная дзяржаўная пошліна спагнана альбо што яна на падставе такіх-то артыкулаў Палажэньня ці пастановы пра выняткі не падлягае спагнаньню.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР і
Пракурара Рэспублікі **Міхайлаў.**

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

**10 сьнежня 1930 г.**
**№ 51.**

Дадатак 1-шы.

**Выпіс з дадатку 2 да Палажэньня пра адзіную дзяржаўную пошліну—Пераліку ставак адзінае дзяржаўнае пошліны для платнікаў 2-ой і 3-яй катэгорыі (грамадзян і прыватных юрыдычных асоб) (З. З. СССР 1930 г. № 46).**

| Назва дзеяньняў і дакумэнтаў | Катэгорыя платнікаў — 2 — Разьмер стаўкі: У рублёх і капейках (звычайная). | 2: У % да сумы дакумэнту (прапарц.). | 3: У рублёх і капейках (звычайная). | 3: У % да сумы дакумэнту (прапарц.). | Парадак выплаты |
|---|---|---|---|---|---|
| 14. Пісьмовыя звароты ва ўрадавыя ўстановы і да службовых асоб . . . . . . . | 50 к. | — | 3 р. | — | Пры падачы |

У в а г а: Пошліна не спаганяецца: са зваротаў па справах працоўных культурна-асьветных, вайсковых, крымінальных, па справах пра выбары, пра палітычныя правы грамадзян, са зваротаў у заканадаўчыя органы Саюзу ССР і саюзных рэспублік, а таксама са звароту пра запіс нараджэньня, сьмерці, усынаўленьня і з заяў пра ўстанаўленьне бацькоўства, а таксама са зваротаў пра выдачу пасьведчаньняў аб зробленых запісах.

| Назва дзеяньняў і дакумэнтаў | 2: У рублёх і капейках | 2: У % | 3: У рублёх і капейках | 3: У % | Парадак выплаты |
|---|---|---|---|---|---|
| Арт. 17. Скаргі на ападаткаваньне і падлічэньне ўносаў па сацыяльным страхаваньні, заявы пра вызваленьне, адтэрмінаваньне і растэрмінаваньне гэтых плацяжоў, а таксама абскарджаньне рашэньняў па скаргах: | | | | | |
| Пры суме падлічанага падатку ці страхавых уносаў да 500 р. . . . . . . . . . | 50 к. | — | 3 р. | — | Пры падачы |
| Тое самае больш 500 р. да 3000 | 1 р. | — | 5 р. | — | „ |
| Тое самае больш 3000 р. да 5000 . . . . | 2 р. | — | 10 р. | — | „ |
| Тое самае больш 5000 р. да 20000 . . . . | 3 р. | — | 15 р. | — | „ |
| Тое самае больш 20000 р. . . . . . . . | 5 р. | — | 25 р. | — | „ |
| Арт. 18. Заявы у дадатак да скарг, паказаных у артыкуле 17 пераліку . . . . . | — | — | 2 р. | — | „ |

Дадатак 2.

## Выпіс з палажэньня пра падаходны падатак з прыватных асоб.

(З. З. СССР 1930 г. № 46, арт. 482).

17. Па раскладу № 1-а (дадатак 2) зьлічаецца падатак з даходаў: а) ад літаратурнае і навуковае работы; б) ад скарыстаньня аўтарскага права на свае творы і права на свае вынаходкі; в) ад заняткаў выяўленчым мастацтвам; г) ад работы членамі прамысловых каперацыйных таварыстваў (арцеляй), якія ўваходзяць у каперацыйную сыстэму (у тым ліку арцеляй інвалідаў), статутных працоўных арцеляй і аб'яднаньняў глуханямых і сьляпых, калі гэтыя таварыствы, арцелі і аб'яднаньні не разьмяркоўваюць сваіх прыбыткаў на паёх.

Увага 1. Калі работа прамысловых каперацыйных таварыстваў (арцеляй), у тым ліку і арцеляй інвалідаў, праводзіцца ў супольных майстэрнях, даход членаў гэтых арцеляй ападаткоўваецца месячнымі акладамі паводле правіл, устаноўленых для ападаткаваньня рабочых і служачых.

Такі самы парадак ападаткаваньня з дазволу народных камісарыятаў фінансаў саюзных рэспублік, а ў раёнаваных мясцовасьцях—краявых фінансавых органаў можна пашыраць на членаў калектываў беспрацоўных, статутных працоўных арцеляй, а таксама на членаў іншых аб'яднаньняў, якія атрымліваюць заработную плату на аднолькавых падставах з рабочымі і служачымі.

Увага 2. Члены прамысловых каперацыйных таварыстваў (арцеляй), у тым ліку арцеляй інвалідаў, якія працуюць дома, ападаткоўваюцца падаходным падаткам гадовымі акладамі па даходах ад прадукцыі, якую здаюць у сваё аб'яднаньне—па раскладу № 1-а (дадатак 2), а па даходах ад прадукцыі, якую рэалізуюць на старану,—па раскладу № 2 (дадатак 3).

18. Па раскладу № 2 (дадатак 3) зьлічаецца падатак з даходаў: а) ад асабістае працы не па найму; б) ад заняткаў саматужнымі і рамеснымі промысламі без наймовае працы, незалежна ад парадку ападаткаваньня гэтых заняткаў прамысловым падаткам; в) ад заняткаў гандлем і промысламі, якія ападаткоўваюцца па 1, 2 і 3 разрадах раскладу цьвёрдых ставак прамысловага падатку, а таксама ад заняткаў гандлем і промысламі, вольнымі ад прамысловага падатку; г) ад здачы ў найм будынкаў у гарадох і не ў гарадох; д) ад усіх іншых крыніц, апроч прадугледжаных у артыкулах 12, 17, 19 і 20.

Увага. Асобы вольных прафэсій, даход якіх перавысіў разьмеры, устаноўленыя НКФінансаў СССР па згодзе з НКПрацы СССР, ападаткоўваюцца па раскладу № 2-а (дадатак 4).

19. Па раскладу № 2-а (дадатак 4) падатак зьлічаецца з даходаў: а) ад саматужных і рамесных прадпрыемстваў з наймовымі рабочымі ў ліку ня больш трох, незалежна ад парадку ападаткаваньня гэтых прадпрыемстваў прамысловым падаткам; б) ад заняткаў гандлем і промысламі, якія ападаткоўваюцца па 4 разраду раскладу цьвёрдых ставак прамысловага падатку; в) ад адзінаасабовых заняткаў чыгуначным і мытным экспэдытарствам, гандлёвым пасрэдніцтвам і камісаяжорствам.

20. Па раскладу № 3 (дадатак 5) падатак зьлічаецца з даходаў: а) ад гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў і ад заняткаў гандлем і гандлёвым пасярэдніцтвам, апроч прадпрыемстваў і заняткаў,

паказаных у артыкулах 18 і 19, а таксама ад падрадаў, дастаўкі і да т. п.; б) ад грашовых капіталаў і процантавых папер; в) ад выкананьня абавязкаў служыцеляў рэлігійных культаў.

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

Узгоднена з камандаваньнем Бел. Вайсковай Акругі.

**2. Пра ўжываньне Кодэксу пра льготы для вайскоўцаў і вайсковаабавязаных Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і іх сем'яў у галіне судовай дапамогі.**

На падставе пастановы СНК БССР за 23 жніўня 1930 г. (прат. № 57, п. 2809), Народны Камісарыят Юстыцыі БССР выдае наступную інструкцыю пра ўжываньне Кодэксу пра льготы для вайскоўцаў і вайсковаабавязаных і іх сем'яў (З. З. СССР 1930 г. № 23, арт. 253) у галіне судовай дапамогі:

1. Абарона законных інтарэсаў вайскоўцаў і вайсковаабавязаных Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і іх сем'яў ва ўсіх выпадках, калі толькі гэтыя інтарэсы памянёных асоб парушаны дзяржаўнымі ўстановамі, паасобнымі службовымі асобамі, грамадзкімі арганізацыямі ці прыватнымі асобамі, а таксама ў выпадку спрэчак і разнагалосьсяў, узьнікаючых у сем'ях вайскоўцаў, калі яны пагражаюць зрабіць шкоду інтарэсам адсутнага вайскоўца, ускладаецца, паводле арт. 7 Кодэксу пра льготы для вайскоўцаў і вайсковаабавязаных Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі і іх сем'яў на адпаведныя раённыя выканаўчыя камітэты, а таксама сельскія, гарадзкія і местачковыя саветы.

Паказаныя органы ажыцьцяўляюць гэтую абарону як па ўласнаму пачыну, таксама і на падставе скарг і заяў, пададзеных вайскоўцамі і вайсковаабавязанымі і іх сем'ямі.

2. Такой жа абаронай карыстаюцца вайскоўцы і вайсковаабавязаныя і іх сем'і, якія маюць права на льготы паводле Кодэксу, і пасьля звальненьня іх у доўгатэрміновы водпуск, у запас ці зусім ад службы з паасобнымі выключэньнямі, паказанымі ў адпаведных артыкулах Кодэксу.

3. Раённыя выканаўчыя камітэты і мясцовыя саветы ажыцьцяўляюць абарону праўных і маемасных інтарэсаў вайскоўцаў і іх сем'яў у выпадках, якія патрабуюць судовага вырашэньня, праз неадкладнае накіраваньне спраў у адпаведныя суды па падсуднасьці, выконваючы ўсе патрэбныя для гэтага дзеяньні: а) праз свае адпаведныя органы; б) праз упаўнаважаных імі на тое службовых асоб; в) праз членаў калегіі абаронцаў, якія назначаюцца яе Прэзыдыумам або адпаведнаю кансультацыяю, альбо праз прызначаемых судом у адпаведнасьці з арт. 304 ГПК афіцыйных прадстаўнікоў з паведамленьнем скаргніка або заяўніка аб выніках разгляду справы, а калі такім зьяўляецца ня сам вайсковец, то і апошняга.

4. У выпадку, калі прадстаўнік будзе выбран самім вайскоўцам, натарыяльнага пасьведчаньня выдадзенай ім даверанасьці на вядзеньне судовай справы не патрэбна і прызнаецца дастатковым пасьведчаньне вайсковай часьцю, у якой ён служыць, толькі подпісу давярыцеля-вайскоўца, з прыкладам гэрбавай пячаткі.

5. Паводле арт. 83 Кодэксу пра льготы для вайскоўцаў і п. „ж" арт. 43 ГПК у рэдакцыі, прынятай пастановаю ЦВК і СНК БССР за 25/VII-1930 г. (газ. „Сав. Беларусь" за 27/VII-30 г., № 174), судовыя

органы з ісцоў-вайскоўцаў кадравага, радавога і малодшага начальніцкага складу тэрміновае службы не павінны спаганяць установленай пошліны па вядзеньні судовай справы ў судовых установах, а таксама і натарыяльныя органы паводле арт. 84 таго-ж Кодэксу таксама не павінны спаганяць пошліны: а) за пасьведчаньне даручэньняў на вядзеньне спраў у судовых і адміністрацыйных установах, а таксама даручэньняў на атрыманьне заработнай платы і на атрыманьне грашовай, паштовай і пасылачнай карэспандэнцыі і б) за пасьведчаньне копій і дакумэнтаў, якія падаюцца ў дзяржаўныя ўстановы і грамадзкія арганізацыі.

6. Пры вядзеньні спраў у судовых органах у парадку арт. 7 Кодэксу пра льготы, раённыя выканаўчыя камітэты, мясцовыя саветы і дзейнічаючыя па іх паўнамоцтву органы і службовыя асобы карыстаюцца ўсімі правамі стараны ў працэсе і, выступаючы ў абарону інтарэсаў вайскоўцаў і вайскоўаабавязаных і іх сем'яў, могуць прад'яўляць іскі ў судох да парушыцеляў гэтых інтарэсаў як па ўласнаму пачыну, так і па просьбе зацікаўленых асоб.

7. У мэтах найбольш поўнай абароны інтарэсаў вайскоўцаў і іх сем'яў раённыя выканаўчыя камітэты і мясцовыя саветы пасьля атрыманьня зьвестак аб дзеяньнях, якія парушаюць або значна закранаюць інтарэсы вайскоўцаў і іх сем'яў, павінны, не чакаючы падачы кім-небудзь просьбы або заявы, прыняць адпаведныя меры да абароны іх законных інтарэсаў, калі гэтыя інтарэсы ў паасобку выяўляюцца ў наступным: а) у заключэньні відавочна-нявыгадных для іх угод па маемасьці гаспадаркі, у тым ліку і ў выпадку крайняе патрэбы; б) у незаканамернай перашкодзе іх землякарыстаньня; в) у парушэньні іх правана карыстаньне жылою плошчаю; г) у пазбаўленьні сродкаў на ўтрыманьне жонкі і дзяцей; д) пры спагнаньні або прымусовым продажу маемасьці, якая не належыць да опісу і арышту; е) у няправільным выдзяле або сямейна-маемасным падзеле маемасьці; ж) у раскраданьні або прысваеньні належачае вайскоўцу або яго сям'і маемасьці; з) у паданьні на іх іскаў або ў правядзеньні спагнаньняў і г. д.

8. Асаблівая ўвага павінна быць удзелена з боку райвыканкомаў і мясцовых саветаў у выпадку заключэньня сем'ямі вайскоўцаў яўна нявыгадных умоў па маемасьці гаспадаркі і аб прызнаньні такіх умоў несапраўднымі ці аб спыненьні іх дзеяньня на далейшы час неадкладна павінны падавацца адпаведныя іскі ў суды, якімі справы па такіх іскаx павінны разглядацца ў самым тэрміновым парадку, а таксама з боку паказаных адміністрацыйных і судовых мясцовых органаў ўлады павінны прымацца ўсе меры да як можна хутчэйшага праходжаньня і правільнага вырашэньня спрэчных спраў у судох аб працоўнай арэндзе гаспадарак вайскоўцаў і аб падзелах працоўных гаспадарак, членам якіх зьяўляюцца вайскоўцы.

9. Раённыя выканаўчыя камітэты і мясцовыя саветы для выкананьня ўскладзеных на іх артыкулам 7 Кодэксу пра льготы задач праз упаўнаважаных імі асоб могуць: а) узбуджаць розныя іскі і ўваходзіць у судовыя справы, якія ўжо вядуцца, у парадку арт. 172 ГПК; б) паведамляць асобам пракурорскага нагляду аб просьбе аб паданьні іску аб уваходзе ў справу або аб абскарджаньні ці апратэставаньні рашэньняў і прыгавораў, якія ўвайшлі ў законную сілу; в) прасіць аб прыпыненьні вядзеньня справы ў парадку п. „б" арт. 114 ГПК; г) прысутнічаць пры падзеле, пры выкананьні рашэньняў судоў і г. д.

10. Пры ўсякім спагнаньні з вайскоўца або з яго сям'і ў сельскіх мясцовасьцях выканавец павінен паведаміць аб тым сельскі савет, ад погляду якога залежыць або прасіць суд аб прыпыненьні выкананьня прыстасавальна да арт. 114 ГПК, або, калі няма ў сям'і вайскоўца асобы, якая магла-б цалкам абараняць яго інтарэсы, прасіць суд аб назначэньні на месцы выкананьня афіцыйнага прадстаўніка паводле арт. 304 ГПК, або прыняць удзел у правядзеньні спагнаньня на старане даўжніка праз свайго прадстаўніка.

У гарадох і мястэчках гэтыя правы належаць гарадзкім і местачковым саветам.

11. Пры вырашэньні грамадзянскіх спраў і выкананьні рашэньняў па іссках да вайскоўцаў органы суда, а таксама, органы, выконваючыя судовыя рашэньні, дакладна павінны захоўваць патрабаваньні арт. 267 Закону пра абавязковую военную службу (З. З. СССР 1930 г. № 40, арт. 424), паводле якога вайскоўцам нададзены пэўныя льготы пры спагнаньні з іх грамадзкіх іскаў, а іменна:

а) калі іск пададзен супроць асобы радавога і начальніцкага складу Чырвонае Арміі, то не дазваляецца накіроўваць спагнаньне па гэтых іскаx на тую ўзнагароду натурай, якую вайсковец атрымлівае па службе, а таксама на ўзнагароду грашыма, якую атрымліваюць асобы радавога складу тэрміновай службы;

б) пры накіраваньні спагнаньня на грашовую ўзнагароду асоб сярэдняга, старэйшага і вышэйшага начальніцкага складу, а таксама радавога і малодшага начальніцкага складу звыштэрміновай службы, з гэтых асоб можа быть утрымана ня звыш 50 проц. асноўнага і дадатковага акладу—на ўтрыманьне членаў сям'і і ня звыш 20 проц.—для ўсіх астатніх відаў спагнаньняў; пры адначасовым спагнаньні на ўтрыманьне членаў сям'і і па іншых падставах можа быць утрымана ў агульнай колькасьці ня звыш 50 проц. асноўнага і дадатковага акладаў, за выключэньнем спагнаньняў, паказаных ва ўвазе да арт. 267 Закону пра абавязковую военную службу і арт. 316-а ГПК.

Такім чынам суды пры разглядзе спраў па іскаx супроць вайскоўцаў павінны кожны раз патрабаваць ад месца службы адказчыка-вайскоўца поўныя зьвесткі аб складзе і разьмеры яго заробку і пры вырашэньні справы суму спагнаньня вылічаць у дакладнай адпаведнасьці з паказанымі вышэй нормамі арт. 267 Закону пра абавязковую военную службу.

12. У адпаведнасьці з арт. 8 Кодэксу пра льготы на Пракуратуру ўскладаецца нагляд за законнасьцю дзеяньняў службовых асоб і устаноў, грамадзкіх арганізацый і прыватных асоб у адносіне да вайскоўцаў і вайсковаабавязаных і іх сем'яў, пры чым кожны пракурор, атрымаўшы зьвесткі пра парушэньне законных інтарэсаў асоб, якія маюць права на льготы, павінен безадкладна ўжыць захады да зьнішчэньня выкрытых парушэньняў і прыцягнуць парушальнікаў да адказнасьці.

13. Усе скаргі і заявы, якія пастулаюць ад сем'яў вайскоўцаў, Пракуратура павінна разглядаць і расьследваць у першую чаргу, абавязкова складаючы аб кожным астаўленьні такіх скарг і заяў бяз руху матываваныя пастановы.

14. Па справах, якія належаць да разгляду судовых устаноў, Пракуратура павінна па магчымасьці шырэй скарыстаць правы, дадзеныя ёй арт. арт. 2 і 297 ГПК.

15. Службовыя асобы, якія не зрабілі захадаў да абароны справядлівых інтарэсаў вайскоўцаў і вайсковаабавязаных і іх сем'яў, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці як за бязьдзейнасьць улады ці нядбайныя адносіны да службы паводле арт. 196 КК.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Міхайлаў.**

26 студзеня 1931 г.
№ 5.

## Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### 3. Пра аплату адзінай дзяржаўнай пошлінай адказаў на заявы ў службовыя ўстановы.

*Усім рай-і гар. фінаддзелам. Копіі: Аршанскаму, Бабруйскаму, Барысаўскаму, Магілеўскаму, Мазырскаму, Полацкаму і Рэчыцкаму Гарсаветам.*

Ад некаторых фінаддзелаў паступілі запытаньні адносна аплаты адзінай дзяржаўнай пошлінай адказаў на заявы ў службовыя ўстановы.

НК Фінансаў БССР тлумачыць:

Калі заява падаецца ў пісьмовай форме, то адказ на яе асобна пошлінай не аплачваецца, бо пры ўстанаўленьні ставак пошліны для пісьмовых заяў улічвалася аплата і адказу на заяву.

Інакш абстаіць справа ў тым выпадку, калі заява падаецца вусна і вынікам яе зьяўляецца пісьмовы адказ (у відзе даведкі, пасьведчаньня і г. д.). Паколькі вусная заява не аплачваецца, павінен быць аплачан пошлінай адказ на такую заяву ў разьмеры, які ўстаноўлен для пісьмовай заявы.

Зусім зразумела, што калі для пісьмовай заявы ўстаноўлена льгота па пошліне ў сэнсе вызваленьня ад апошняй (напр., па справе культурна-асьветнай, вайсковай), то і адказ на адпаведную вусную заяву не павінен аплачвацца пошлінай.

Намесьнік Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Сэктар па прыцягненьні сродкаў насельніцтва
НКФ БССР—**Айвінсон.**
**Пінчук.**

23 студзеня 1931 г.
№ Н 1.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### 4. Пра аплату выкладчыкаў прафэсійных школ усіх тыпаў.

Для разьвіцьця інструкцыі НКПрацы СССР за 10 сьнежня 1930 г аб аплаце выкладчыкаў, НКПрацы БССР пастанаўляе:

Устанавіць выкладчыкам прафэсійных школ усіх тыпаў (сельскагаспадарчага, каапэрацыйнага, поварскага і канторскага вучнёўства і інш.), як і ў школах ФЗУ, наступныя стаўкі: а) для II-га поясу 140 р. в) для III-га поясу 135 р. Нормы гадавой нагрузкі ўстанавіць наступныя:

1) для школ на базе 4-годкі—720 гадавых гадзін і
2) для школ на базе 7-годкі—600 гадавых гадзін.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

25 студзеня 1931 г.

**5. Пра абвяшчэньне пастановы НК Працы СССР за 19/I-1931 г. № 21 пра ўпарадкаваньне водпускаў.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе абвясьціць да кіраваньня наступную ўзгодненую з НК РСІ СССР і УсеЦСПС пастанову НК Працы СССР за 19/I-1931 г. № 21 пра ўпарадкаваньне водпускаў:

„У адпаведнасьці з пастановай аб'яднанага пасяджэньня Прэзыдыуму ЦКК УсеКП(б) і Калегіі НК РСІ СССР за 23/XII-1930 г. („Изв. НКТ СССР“ 1931 г. № 1-2) НКПрацы СССР пастанавіў:

Унесьці наступныя зьмены і дадаткі ў правілы аб чарговых і дадатковых водпусках, зацьверджаныя НКП СССР 30/IV-1930 г. за № 169 („Изв. НКТ СССР“ 1930 г. № 13, 23-24 і 36):

I. Дапоўніць правілы артыкулам 35-а у наступнай рэдакцыі:

„35-а. Ва ўстановах і ў кіруючым апараце прадпрыемстваў абагуленага сэктару (у кіраўніцтвах трэстаў, аб'яднаньняў і г. д., але не ў заводакіраўніцтвах) гэтыя правілы ўжываюцца з наступнымі дадаткамі:

А. У працягу кожнага месяца павінны ўходзіць у водпуск 8-9 проц. усяго складу супрацоўнікаў. У 1931 годзе дазваляецца ў пэрыяд з 15 мая да 1 кастрычніка павялічыць гэтую норму да 12-15 проц. (з прычыны няпоўнай падрыхтаванасьці курортаў і дамоў адпачынку для работы ў працягу ўсяго 1931 г.). Адступленьні ад паказаных норм дапушчаюцца толькі ў органах, зьвязаных з абслугоўваньнем сэзонных работ.

Аднačасная дача водпускаў усім супрацоўнікам установы або [illegible] асобных яе частак дапушчаецца толькі ў тых выпадках, калі гэ[illegible] выклікаецца вытворчымі ўмовамі (напрыклад, калі абавязкова трэ[illegible] прыпыніць работу на час рамонту).

Прыклад. Ва ўстанове 200 супрацоўнікаў. Такім чынам, у працягу кожнага месяца павінны ўходзіць у водпуск 16-18 супрацоўнікаў. З тае прычыны, што водпускі павінны давацца ў працягу ўсяго месяца раўнамерна, дык магчыма, напрыклад, даваць водпускі з 3-га, 13-га, 23-га, 7-га, 17-га, і 27-га і г. д. з тым, каб у кожны з паказаных тэрмінаў уходзіла ў водпуск 5-6 супрацоўнікаў, а ўсяго за месяц 16-18 супрацоўнікаў.

Б. Падоўжаньне водпуску за лік нескарыстаных выхадных дзён забараняецца.

В. Забараняецца дача водпускаў без захаваньня заработку, апрача тых выпадкаў, калі гэта прадугледжана спэцыяльнымі законамі, напрыклад,—законамі аб разьмеркаваньні на работу маладых спэцыялістаў пасьля сканчэньня ВНУ і тэхнікумаў.

Г. Пры ўходзе ў водпуск перадача іншым супрацоўнікам няскончанай работы не дапушчаецца“.

II. У сувязі з перанясеньнем пачатку гаспадарчага году на 1 студзеня, другую частку арт. 10 запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Чарговасьць дачы водпускаў на кожны год устанаўляецца не пазьней 1 студзеня г. г. (на 1931 год—не пазьней 25 студзеня 1931 г.)“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Д. Захарава.**

27 студзеня 1931 г.
№ 5.

Адказны Рэдактар С. Лодысеў.

Галоўлітбел № 294. Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАНА БССР. Зак. № 140—5.200 экз.